

ПРАМАЯ ЛІНІЯ

*Аляксандр МІЛІНКЕВІЧ:*

# «Галоўнае — каб улада вярнулася ў рукі народа»

## *Пытанні палітыку Аляксандру Мілінкевічу задавалі самыя розныя: і з падвохам, і без. Ён, як і абяцаў, адказаў на ўсе.*

### *Пытанні з электроннай пошты*

**— Некалькі гадоў таму чытаў у “Народнай Волі”, што вы адвялі цяперашняй уладзе *“максімум 2—3 гады”*. А мінула ўжо пяць. Памыліліся ў падліках? Увогуле, як сапраўды палітык павінен прызнаваць свае памылкі?**

**Ядвіга Круглянская, Брэсцкая вобласць.**

— Палітык не можа не быць аптымістам. І прагнозы часта гучаць і мусяць гучаць як лозунгі. Калі ж удавацца ў паліталагічны аналіз, то пры адсутнасці выбараў як такіх у Беларусі прагнозы — няўдзячная справа. А памыліўся я ў вышыні парогу цярплівасці і інертнасці беларусаў, хацеў сваім аптымізмам знізіць яго. Час быў змарнаваны і таму, што апазіцыя адмовілася ад выбараў адзінага лідара. У 2007 годзе на Кангрэсе Аб’яднаных дэмакратычных сіл стаўка была зроблена на ратацыйны прынцып старшынства. У выніку АДС развалілiся, а ў 2010 годзе мы ўжо назіралі парад кандыдатаў ад апазіцыі.

**— Паважаны Аляксандр Уладзіміравіч, некалькі год таму прайшоў зладжаны вамі “Еўрапейскі форум”. Праграма дзеянняў па “еўрапеізацыі” Беларусі, якая на ім была прынята, была надзвычай змястоўная і маштабная. На жаль, нічога з таго, што анансавалася і абяцалася, не зроблена. Як вы гэта можаце патлумачыць?**

**Дзяніс Рабянок, грамадскі актывіст, Калінкавічы.**

— Магу шмат распавядаць пра канкрэтныя праграмы навучання для беларускай моладзі, пра інфармацыйныя кампаніі, пра перавагі еўраінтэграцыі, пра дзейнасць нашых еўрапейскіх клубаў па ўсёй Беларусі, пра “Народную праграму”, пра якую за адносна кароткі час ужо ведаюць 40% насельніцтва.

З іншага боку, мы яшчэ, як многім марыцца, не ў Еўрасаюзе, не ў Шэнгенскай прасторы і не ў еўразоне. На Беларускім еўрапейскім форуме, які прайшоў у лістападзе 2009 года, ставілася больш рэальная стратэгічная задача — еўрапеізацыя. Але ж зразумела, што еўрапеізацыя — гэта працэс. І працэс, улічваючы неспрыяльныя чыннікі — ад ментальных да геапалітычных, няпросты і няхуткі.

Да таго ж пасля пазітыўных зрухаў, хай сабе і нязначных (вызваленне палітвязняў у 2008 годзе і некаторая лібералізацыя выбарчай кампаніі), адбылося згортванне дыялогу з Еўрасаюзам і пагружэнне ў неаімперскія праекты Крамля. Натуральна, ажыццяўленню мэт, вызначаных на Беларускім еўрапейскім форуме, пашкодзіў зрыў дыялогу з Захадам.

Але і ў гэтых умовах маштабы праеўрапейскіх настрояў беларусаў параўнальныя з прарасійскімі. А самае галоўнае — Еўропа на нас не махнула рукой. Цяпер вось распрацоўваецца адмысловы “план Маршала” для Беларусі. І рух “За Свабоду” лічыць гэта ў тым ліку сваёй заслугай.

**— Складывается впечатление, что вы гораздо чаще появляетесь в Европе, чем на родине. Вы никогда не подсчитывали, сколько времени вы проводите там и тут? И как вы судите о реалиях нашей жизни, если Брюссель знаете лучше, чем Минск?**

**Виталий Рачков, Гродненская область.**

— Я действительно часто бываю за границей и вместе с тем стараюсь много ездить по Беларуси. Естественно, белорусскую глубинку и на западе, и на востоке я знаю лучше, чем Брюссель.

В ближайшее время будет новый такой цикл поездок по стране. Ведь одно —делать выводы согласно социологическим опросам, а совсем другое — прямой живой контакт. Что же касается встреч за рубежом, я считаю, что моей обязанностью является использование личного влияния и авторитета движения “За Свободу”, чтобы отстаивать независимость Беларуси, способствовать ее демократизации и налаживать связи с партнерами — работа, которую не способен сегодня делать государственный аппарат.

Вместе с тем искренне признаюсь: к сожалению, ситуация такова, что пока реально поспособствовать позитивным изменениям — здесь и сейчас — можно в первую очередь с помощью Запада. А если так, то я делаю все возможное в этом направлении. Хотя судьба страны должна решаться внутри нее — белорусским народом.

**— Ваш сын учился за границей. Он уже завершил образование? Где планирует жить и работать — на родине или в ЕС?**

**Екатерина Ускова, Брест.**

— Витовт сначала учился в Варшавском университете, сейчас — во Вроцлавском. Учится заочно — чтобы работать, зарабатывать и не сидеть на шее у родителей. Мечтает вернуться в Беларусь. Сейчас это невозможно — еще в 2006 году, после событий Площади, он был включен в списки тех, кого приказано задержать на границе.

**— Аляксандр Уладзіміравіч, зразумела, што палітык павінен прыстойна выглядаць. Часта мяняеце гардэроб? Колькі каштуе ваш касцюм? І як мне, такой жа беспрацоўнай, як і вы, зарабіць на такі выхадны касцюмчык?**

**Валянцін, Мінск.**

— Я без ажыятажу стаўлюся да вопраткі. Не шыкую. Але магу сабе дазволіць прыстойнае адзенне. У мяне некалькі касцюмаў, у асноўным беларускай вытворчасці — прыстойныя вырабы. Я дастаткова зарабляю. І заўсёды падаю дэкларацыю аб даходах у падатковую інспекцыю. Не буду хаваць гэтай інфармацыі і ад чытачоў “Народнай Волі”: у 2011 годзе зарабіў каля 16 тысяч еўра — выдаў кніжку ў Чэхіі, чытаў лекцыі ў Польшчы ды Германіі.

**— Пытанне кароткае: што павінна здарыцца, каб вы зноў прынялі ўдзел у прэзідэнцкіх выбарах?**

**Кастусь, Мінск.**

— У першую чаргу павінны адбыцца сапраўдныя выбары. А з іншага боку, я гатовы саступіць маладым.

**— Якім чынам Аляксандр Мілінкевіч збіраецца прыйсці да ўлады?**

— Галоўнае — каб улада вярнулася ў рукі народа. А годных асоб, якія могуць яго прадстаўляць на прэзідэнцкай пасадзе, у нас хапае.

**— Аляксандр Уладзіміравіч, а можа, усё ж такі наладзіць байкот гэтаму фарсу пад назвай “выбары”? Якое можа быць волевыяўленне людзей ва ўмовах дыктатуры?**

**Karen Akopau**

— Не мае сэнсу дыскусія пра ўдзел-няўдзел, пакуль мы не вызначылі мэты кампаніі. Калі мэта — паказаць уладзе кукіш у кішэні, прадэманстраваць, што апазіцыя маральная, а рэжым — не, то байкот падыходзіць. Але для мяне найбольш важна адказаць на галоўнае пытанне, якое задаюць людзі: “Вы нам расказваеце, што Лукашэнка кепскі. А мы і так ведаем. Вы скажыце, чаму з вамі жыццё будзе лепшым?” Для таго, каб сфармуляваць адказ на гэтае пытанне, каб у людзей з’явілася вера ў перамены, нам трэба выбіраць удзел у выбарах з умовамі. Для такой мэты байкот недарэчны.

Нам важна давесці, што ў краіне ёсць годныя людзі, якія вартыя ўвайсці ў парламент і спрыяць вываду краіны з крызісу. А гэта немагчыма зрабіць без размоў з насельніцтвам, якой бы маральнай ні была абструкцыя ў дачыненні да дыктатуры. Мы лічым, што важна выкарыстаць для гэтага чарговую выбарчую кампанію, зняўшыся перад галасаваннем, калі ў краіне на той момант будуць палітвязні. Нарэшце, звярніце ўвагу на вынікі сакавіцкага апытання Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (зарэгістраваны ў Вільнюсе. — **Рэд.**): ідэю байкоту падтрымлівае 10% апытаных. Наша грамадства ўсё яшчэ “спіць”, а калі да сну яго будзе клікаць і апазіцыя, дык праспім і людзей, і краіну!

**— Смотрю на ваше фото в “Народной Воле” и думаю: Милинкевич, когда ты побреешься? В таком возрасте так опуститься…**

**Дмитрий Яцушкевич.**

— Ну, апусціўся я, як вы кажаце, даўно — адпусціў бараду пасля абароны кандыдацкай дысертацыі ў 1976 годзе. А наогул шмат жанчын, а галоўнае — мая жонка, кажуць, што мне пасуе. Таму застануся з барадой.

**— Хто вядзе рэй у вашай сям’і?**

**Ірына, Мінск.**

— У нашай сям’і сапраўды дэмакратыя, якая прадугледжвае не толькі самастойнасць у прыняцці рашэнняў, але і прыслухоўванне да меркаванняў партнёра-сябра. Як я не ўяўляю сваю жонку Іну Кулей ўсяго толькі хатняй гаспадыняй, валадаркай баршчу, гэтак і ёй не патрэбны муж-падабцаснік. Я прыслухоўваюся да жонкі яшчэ і таму, што яна добры аналітык, паспяховы і дасведчаны грамадскі лідар.

**— Спадар Мілінкевіч, добры дзень! Пытанне, якое мала тычыцца палітыкі, але, спадзяюся, вы не палічыце заганным адказаць. Ведаю, што вы гуманітарый, а значыць, схільны да таго, каб сэрцам пераасэнсоўваць падзеі жыцця. Як вы знаходзіце выйсце сваёй творчай энергіі? Вось, нават спадары Рубінаў і Фядута пішуць вершы. Магчыма, і вы захапляецеся паэзіяй?**

**Юлія Прудко.**

— Юлія, я фізік.У родным Гродне мяне многія лічаць гісторыкам. А па душы, можа быць, і сапраўды больш гуманітарый. Мне даводзілася шмат займацца культурніцкімі і гістарычнымі даследаваннямі. Разам з калегамі знайшоў пахаванне апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага, рэстаўраваў найстаражытнейшы ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе гродзенскі вежавы гадзіннік.

І маё захапленне — краязнаўства. Ствараю разам з мясцовымі жыхарамі ў родных Берштах, што на самай-самай мяжы з Літвой, этнаграфічны музей.

### *Пытанні, якія задавалі па тэлефоне*

**— Складывается впечатление, что тема последствий аварии на ЧАЭС не является для Беларуси приоритетной. И почему оппозиционеры так редко уделяют внимание этой теме? Планируете ли вы посетить Гомельскую область — я имею в виду самые загрязненные районы? И почему все вояжи в Гомельскую область совершаются только накануне годовщины аварии на ЧАЭС?**

**Василий Николаевич, Гомельская область.**

— Я бываю в Брагине, Хойниках, Комарине и других районах, пострадавших от Чернобыля, каждый год. А не только в 2006 году, когда баллотировался в президенты. Я разговариваю с местными жителями, вижу проблемы этих мест. В этом году у меня запланирована серия поездок по стране. Начну их, как только заживет сломанная в начале апреля рука, чтобы я смог пожать своим собеседникам руку.

**— Чаму ніводны апазіцыянер, і вы ў тым ліку, ні словам, ні паўсловам не гаворыць аб тым, якую ваду п’юць людзі на сяле? Ледзь не ўся вёска п’е атручаную, смярдзючую ваду! На мой погляд, замест будоўлі АЭС лепей бы газіфікавалі ўсе вёскі, далі нармальную ваду — гэта ж асновы жыцця! Калі б апазіцыя гаварыла пра тое, што сапраўды хвалюе людзей, уся вёска была б за іх!**

**Валянцін Кляпко, Капыльскі раён.**

— Спіс таго, што можна было б з карысцю зрабіць замест АЭС, у тым ліку для здароўя беларусаў, вялікі. З атамнай станцыяй тая самая вада чысцей дакладна не стане. І гэтую праблемную тэму, вы сапраўды слушна кажаце, таксама трэба ўздымаць. Давайце разам паспрабуем — пішыце і звaніце нам, у рух “За Свабоду”: мінскі нумар — 280-88-63; ці лістуйце на info@pyx.by. Абсалютна з вамі згодны — менавіта ўздымаючы блізкія людзям праблемы, мы зможам заваяваць іхні давер.

Праблема з якасцю пітной вады вельмі востра стаіць у Беларусі, асабліва ў малых гарадах, у сельскай мясцовасці. Але гэтая праблема характэрна і для сталіцы. Высілкі, якія прыкладаюць улады, і гэта бачна на прыкладзе Мінска, не заўжды дастатковыя, каб істотна палепшыць сітуацыю. І калі так адбываецца, што замінае нам звяртацца больш актыўна да міжнародных фінансавых арганізацый, якія дапамагаюць у пераадоленні падобных праблем? Гэта вельмі сур’ёзнае пытанне, бо якасць пітной вады — гэта ці не адзін з самых важных параметраў, што ўплываюць на стан здароўя людзей.

**— Белорусский народ на 70—80 процентов равнодушен к чужим проблемам. Какой политик, по-вашему, сможет повести *ТАКОЙ* народ за собой? Можете ли вы это сделать?**

**Татьяна Петровна Корнеева, Лида.**

— К сожалению, многие у нас даже к своим проблемам относятся недопустимо безразлично или чрезмерно терпимо. Но я не согласен с тем, что белорусы — это какой-то безнадежный народ. Вот когда Лукашенко во время кризиса сказал, что ему, видите ли, стыдно за белорусов, мне стало обидно за нас всех. Да, у нас хватает ментальных издержек тоталитарного и колониального наследия. И как раз вина власти в том, что она не помогает народу избавляться от этого, а наоборот, консервирует или даже культивирует! Повести белорусов за собой сможет политик, который будет терпелив к этим проблемам и сможет найти нужные слова, чтобы народ захотел избавиться от шор на глазах и разрухи в головах.

От идеологии “чарки и шкварки” рано или поздно наступят похмелье и изжога. И вот тогда произойдет идентификация белорусами себя как нации — белорусской и европейской.

**— У мінулым годзе па НТБ паказвалі палітычны серыял “Крестный батька”. Як вы лічыце, ці павінны людзі, якія прэтэндуюць на прэзідэнцкае крэсла і займаюць яго, якія прымаюць лёсавызначальныя рашэнні наконт будаўніцтва АЭС і іншыя, раз на год праходзіць паглыбленае медыцынскае абследаванне?**

**Васіль Тарасавіч Загарэльскі.**

— Я лічу, што да чалавека на прэзідэнцкай пасадзе павінна быць болей патрабаванняў, чымсьці да іншых. І тыя якасці і характарыстыкі кіраўніка краіны, якія сягаюць за ягонае асабістае жыццё і ад якіх залежыць лёс краіны і кожнага яе грамадзяніна, павінны быць грунтоўна даследаваны.

**— Как вы относитесь к идее собрать Всебелорусское народное собрание и обсудить вопрос импичмента Лукашенко?**

**Александр, Новополоцк.**

— В принципе, как к таковой идее отношусь позитивно. Действительно много вопросов, которые нужно обсуждать всенародно. И главный, по моему мнению, вопрос — отстаивание независимости Беларуси. Наконец, это должно быть представительное и дееспособное собрание.

Нельзя допустить, чтобы такой статус мероприятия с заявленным волеизъявлением народа был девальвирован принятием какой-нибудь очередной декларации, за которой все пойдет так, как и было. Всебелорусское народное собрание нужно провести так вовремя и так кстати, чтобы оно стало двигателем событий на пути к переменам.

**— Я хотела бы просто выразить свое отношение к оппозиции. На мой взгляд, это никчемные, отвратительные люди. Они ничего не могут добиться, и проблемы людей их совершенно не волнуют. Они только и знают, как ездить по заграницам и выбивать гранты. И эта власть для них — очень удобна. Или я не права?**

**Светлана, Светлогорск.**

— Спасибо за мнение. Впрочем, считаю, что вы заблуждаетесь. Оппозиция, как и власть, — в чем-то отражение своего народа. Однако я уверен, что у нас достаточно потенциала, чтобы изменить ситуацию в стране.

**— Ці праходзіў недзе міжнародную экспертызу па бяспецы праект па будаўніцтве АЭС, якую збіраюцца будаваць у Беларусі?**

**Іван Пятровіч, Гродна.**

— Абавязковым этапам пабудовы любой атамнай станцыі ёсць экспертыза, якая праводзіцца ў межах працы МАГАТЭ. Звычайна менавіта экспертыза ў межах гэтай арганізацыі выступае ў якасці асноўнага аргумента на карысць міжнароднай адпаведнасці праекта. Але ёсць некалькі акалічнасцяў, якія таксама варта пазначыць: дзяржава можа правесці пад сваім дахам любыя “міжнародныя экспертызы” з прыцягненнем сваіх экспертаў, і ніводная экспертыза не дае гарантыі ад магчымых катастроф.

**— Не за гарамі парламенцкія выбары. Чаму нідзе не каментуецца метад байкоту выбараў ад Гары Паганяйлы? Некалі ён рэкамендаваў ісці на выбары, але палову бюлетэня пакідаць сабе…**

**Іван Пятровіч, Гродна.**

— Добрых ідэй шмат. Вось і ідэя з распалавіньваннем, парваннем бюлетэня — яркая і сэнсоўная. Але вялікая праблема — у рэалізацыі. Для плёну такой паліттэхналагічнай кампаніі патрэбна маштабная электаральная мабілізацыя. У сённяшніх медыйных умовах, пры цяперашнім стане апазіцыі мы зможам ангажаваць на такі бюлетэневы пратэст хіба самую палітычна актыўную публіку.

**— Як вы ставіцеся да ідэі выдаць “чорную кнігу” злачынстваў цяперашняга рэжыму? І што думаеце наконт скарачэння беларускай арміі — варта гэта рабіць альбо не?**

**Васіль Стэльмах, Бярэзінскі раён.**

— У праваабаронцаў фактаў і сведчанняў на шматтомнік! Яе можна выдаваць і пасля змены ўлады, і ўжо цяпер. Гэтая кніга павінна паслужыць перасцярогай для будучых пакаленняў беларусаў.

Што да арміі, то яна патрэбная — і моцная! З арыентацыяй на абарончыя задачы забеспячэння нашага канстытуцыйнага нейтралітэту, без удзелу ў ваенных канфліктах па-за нашымі межамі. У перспектыве армію варта зрабіць мабільнай, сучаснай і прафесійнай.

**— Скажите, когда наконец наша так называемая оппозиция придет к какому-то единому мнению? Очень больно читать, что они, как козлы, бодаются друг с другом, уже даже до пинков дошло! Даже противно становится от этого… Я сторонник Санникова, переживаю за Козулина. Когда же оппозиция объединится и будет выступать единым фронтом?**

**Филипп Саксонов, Круглянский район, военный подполковник в отставке.**

— Понимаю ваши переживания. Абсолютно согласен. Действительно, для оппозиции объединиться очень важно. Это вопрос имиджа и потенциала в глазах избирателей.

Что касается перспектив объединения, могу ответить только за себя и за движение “За Свободу”: мы, безусловно, выступаем за единый фронт действий белорусской оппозиции. И движение “За Свободу” никогда не участвовало и не будет участвовать в каких-то разборках внутри оппозиции. Даже когда нас поливают грязью — мы не отвечаем.

**— Считаете ли вы, что Беларусь находится на грани потери независимости? Что необходимо сделать, чтобы этого не произошло?**

**Арсений, Витебск.**

— Угроза потери независимости — это на сегодняшний день самая большая проблема: станем ли мы протекторатом России или выберем европейский путь? Диктаторы приходят и уходят, а страна должна остаться. Мы все сегодня ответственны за это.

### *Пытанні з сайта «Народнай Волі»*

**— Спадар Аляксандр, якім вы бачыце сцэнарый збліжэння Беларусі і Еўрапейскага Саюза? Якімі шляхамі можа праходзіць гэты працэс? Што трэба рабіць тым, хто хоча наблізіць час, калі Беларусь стане паўнавартнасным сябрам ЕС?**

**Максак.**

— Сцэнарый залежыць ад нас з вамі. Калі б да ўлады прыйшлі праеўрапейскія палітыкі, то еўраінтэграцыя стала б прыярытэтам знешняй палітыкі. Хаця перспектыва Беларусі стаць краінай-удзельніцай Еўрасаюза — доўгатэрміновая. Можна толькі шкадаваць пра страчаныя гады. Пры спрыяльным развіцці падзей у навінах сусветных інфармацыйных агенцтваў мы маглі б цяпер чытаць: *“З 1 ліпеня 2012 года Беларусь увойдзе ў склад Еўрасаюза”.*

Нам неабходна не толькі прывесці беларускае заканадаўства ў адпаведнасць еўрапейскім стандартам, зрабіць структурныя палітычныя і эканамічныя рэформы, але і, што самае галоўнае, значна ўзмацніць праеўрапейскія настроі ў грамадстве.

**— Чаму вы супраць эканамічных санкцый датычна Беларусі?**

— Можна было б весці дыскусію пра шырокія эканамічныя санкцыі, калі б:

— Еўрасаюз адначасова панізіў кошт віз;

— стварыў магчымасці для працаўладкавання беларусаў;

— ля турмаў тысячы беларусаў патрабавалі вызвалення палітвязняў;

— у большасці партый было не па некалькі сотняў, а па шмат тысяч актывістаў;

— да нас масава ішлі людзі, і мы стаялі на парозе ўтварэння арганізацыі накшталт польскай “Салідарнасці”;

— беларусы не былі настолькі русіфікаваныя і размаўлялі б па-беларуску.

Сённяшнія візавыя і кропкавыя эканамічныя санкцыі — гэта справядлівая маральная рэакцыя ЕС на рэпрэсіі супраць іншадумцаў. Але я супраць шырокіх эканамічных санкцый, бо яны сапраўды найперш закрануць інтарэсы простых людзей. А гэта ў сваю чаргу негатыўна адаб’ецца на праеўрапейскіх настроях беларусаў.

Тых, хто супраць эканамічных санкцый і за дыялог, час ад часу называюць праваднікамі інтарэсаў рэжыму. Але ў барацьбе з дыктатурай, з Лукашэнкам, часта асабістай, нельга забывацца пра нацыянальныя інтарэсы, пра Беларусь, у рэшце рэшт.

Што мы атрымалі пасля зрыву палітыкі паступовага збліжэння з аб’яднанай Еўропай? Як мінімум аслабленне эканамічнага суверэнітэту. Свядома ці несвядома, у змагарнай інерцыі многія фактычна працуюць на прасоўванне ў Беларусь чужых неаімперскіх інтарэсаў. А гэты працэс можа стаць незваротным. Таму ў якасці альтэрнатывы наркатычнаму падсілкаванню таннымі газам і нафтай для хворай беларускай эканомікі вельмі важным лічу мадэрнізацыйны план з боку Еўрасаюза — своеасаблівы “план Маршала”.

**— Александр Владимирович, почему вы так слабенько добиваетесь отмены для белорусов виз в ЕС и ничего для этого не делаете? Позвоните своей подружке Меркель и другу Николя, пусть отменят.**

— Отмена виз была б самой сильной санкцией в поддержку демократии в Беларуси. Проевропейские настроения в нашей стране через несколько лет стали бы доминирующими. И на встречах с лидерами европейских стран я об этом говорю. Однако такой вариант с отменой виз в одностороннем порядке практически нереален, так как такое исключение требует обхода ряда процедур. Куда реальнее отмена платы за визы, хотя бы частичная для всех граждан Беларуси или полная для молодежи до 25 лет.

### *Пытанні з лістоў*

***Ці патрэбны нам рэферэндум з нагоды будаўніцтва АЭС?***

*Паважаны спадар Аляксандр Мілінкевіч!*

*У мяне да вас пытанне-прапанова. Набліжаецца чарговая 26-я гадавіна Чарнобыля. Напэўна, як звычайна, будуць мітынг, шэсце, транспаранты, рэзалюцыя. І ўсё звычайна на гэтым канчаецца. У незалежных СМІ часам з’яўляюцца артыкулы, дзе вучоныя з лічбамі, фактамі даказваюць, што Беларусі АЭС не патрэбна. Апошнім часам, пасля аварыі ў Японіі, стаўленне еўрапейскіх (ды і не толькі) краін да АЭС вельмі змянілася. Ну а наша краіна ідзе “сваім шляхам”, хаця мы яшчэ не адышлі і ад аднаго Чарнобыля. А чаму б і нам, як гэта зрабілі ў Швейцарыі, не патрабаваць ад улады правесці рэферэндум па такім лёсавызначальным для нас пытанні.*

*Як вы ставіцеся да такой прапановы? Яна, як мне здаецца, магла б кансалідаваць усе апазіцыйныя партыі і рухі і аб’яднаць жыхароў усёй нашай краіны.*

***З павагай —***

***пенсіянерка Дзіяна СТЭЛЬМАХ.***

— Праект АЭС нібыта меў на мэце зменшыць нашу энергазалежнасць ад Масквы. Але павялічвае яе да крытычнага ўзроўню. У дадатак будзем яшчэ і прывязаны да ўранавага паліва ўсходняй суседкі, бо іхняя станцыя да яго прыстасавана. Нарэшце, будуем за пазычаныя ў Расіі ж грошы, вялікія грошы. Разлічвацца — нашым дзецям.

Па сутнасці, Расія нам, як кажуць, “уцюхала” сваю АЭС, скарыстаўшыся разрывам адносін з Захадам і пагаршэннем эканамічнага становішча, якое пагражае палітычнай трываласці рэжыму.

Эколагі, грамадскія актывісты ўздымалі пытанне пра рэферэндум і АЭС. Аднак рашэнне пра з’яўленне беларускай атамнай станцыі было прынята нават без грамадскага абмеркавання. Хаця такое пытанне пасля Чарнобыля павінна было б вырашацца менавіта праз рэферэндум. Абсалютна, спадарыня Дзіяна, тут з вамі згодны.

Сябры руху “За Свабоду” ў Горках і Астраўцы праводзілі шырокія кампаніі за нацыянальнае публічнае абмеркаванне пытання пабудовы АЭС у Беларусі.

Нагадаю, у артыкуле 18 Канстытуцыі чытаем: “Рэспубліка Беларусь ставіць за мэту зрабіць сваю тэрыторыю бяз’ядзернай зонай”.

***Чаму ніхто не гаворыць пра змену Канстытуцыі?***

*Паважаны спадар Аляксандр!*

*Да вас звяртаецца вайсковы пенсіянер, жыхар Пружанаў Мікола Канаховіч. Я двойчы з вамі сустракаўся, калі вы прыязджалі ў Пружаны. Ад сустрэчы з вамі ў жыхароў Пружанаў засталіся самыя добрыя ўспаміны і пачуцці як да чалавека і палітыка. Увогуле, можна задаць больш за тысячу пытанняў, і ўсе яны будуць слушныя. Усе гэтыя пытанні можна было б скампанаваць у адно, але чамусьці* **гэтае адно** *ніколі і нікім не падымаецца на паверхню як самае галоўнае, а ўсе спрачаюцца вакол няведама чаго. А пытанне такое: чаму нікім і ніколі сур’ёзна і рашуча не падымаецца самае стратэгічнае пытанне аб вяртанні Канстытуцыі 1994 года?*

*І яшчэ адно. 8 верасня 2014 года спаўняецца 500 гадоў найвялікшай гістарычнай падзеі для нашага народа — Аршанскай бітве. Шкада, што ні гісторыкі, ні палітыкі яшчэ напоўніцу не асэнсавалі значэнне той перамогі. Бо, калі б не было той далёкай перамогі, — не было б нават і гэтай, так званай сурагатнай Беларусі, якую мы маем сёння. Таму пытанне такое.*

*Сёння ідзе татальная інкарпарацыя Беларусі Расіяй. Таму шырокамаштабнае святкаванне 500-годдзя Аршанскай бітвы будзе адпаведным рэзанансам для каланізатараў. А як лічыце Вы?*

— Спадар Мікола, дзякуй за добрыя словы! Спадзяюся, што мы яшчэ пабачымся.

Што ж тычыцца вашых пытанняў, безумоўна, 500-годдзе Аршанскай бітвы ў 2014 годзе будзе адзначана належным чынам як значная гістарычная падзея, як Дзень беларускай вайсковай славы. Аднак, на маю думку, адзначаць мы яго павінны далікатна, без акцэнту, які можа быць трактаваны як русафобскі. Перш за ўсё гэта Свята, якое мае вялікае значэнне ў пабудове нашай дзяржаўнасці, у адстойванні незалежнасці краіны. Свята, якое павінна ўзмацняць нацыянальную гістарычную свядомасць беларусаў.

Галоўнае — каб наш патрыятызм, беларускасць выяўляліся штодня, натуральным чынам. Каб беларусы гаварылі па-беларуску, а ўлады спрыялі беларусізацыі і дбалі пра суверэнітэт, а не прадавалі нацыянальнае багацце.

Зразумела, што, калі б дзейнічала Канстытуцыя-1994, гэтага не адбылося б. Тады кіраўнік краіны не змог бы дзейнічаць як сярэднявечны феадал: што хачу, тое і раблю.

Зрэшты, і Канстытуцыя са зменамі гэтага не дазваляе. Так што гэта праблема не зместу Асноўнага Закона, а яго правапрымянення і палітычнай культуры.

***Как помочь осужденному сыну?***

*Уважаемый Александр Милинкевич!*

*В целях восстановления справедливости я хочу вам задать вопрос, который мучает меня 5 лет.*

*В 2007 году мой сын стал невольным свидетелем криминальных разборок неизвестных ему лиц, а сам попал в тюрьму на 18 лет. Свидетелей по делу не было, я имею в виду гражданских лиц. Свидетелями по делу проходили работники милиции г.Гомеля, которые добывали явку с повинной, проводили обыск в доме на момент задержания, следственные действия (имеются все документы).*

*1.Могут ли работники милиции, являющиеся заинтересованными лицами, не видя происходящего, быть свидетелями на следствии и в суде?*

*2.Могу ли я, мать осужденного, по доверенности от сына, заверенной начальником колонии, писать заявления на определенных лиц в высшие инстанции, в оправдание сына прилагая медицинские экспертизы, заседание суда, протоколы приговора суда и другие документы, так как мне приходят отписки, что я не была участником процесса.*

***С уважением — Майя Федоровна КОВАЛЕНКО.***

— Майя Федоровна, свяжитесь, пожалуйста, с движением “За Свободу”. Наши юристы постараются вам помочь. Телефон в Минске — 280-88-63, электронная почта - info@pyx.by.

**На прямой линии дежурила Марина КОКТЫШ.**

## Аляксандр Мілінкевіч будзе «дзяжурыць» на тэлефоне

***Дадаткова палітык адкажа на пытанні чытачоў “Народнай Волі” ў бліжэйшы час.***

Пра дату, калі Мілінкевіч будзе асабіста ля рэдакцыйнага тэлефона, мы паведамім у наступных нумарах, бо пакуль няма яснасці, ці спатрэбіцца старшыні руху “За Свабоду” яшчэ адна аперацыя. Нагадаем, што мінулым разам Мілінкевіч не змог прысутнічаць на “Прамой лініі”, бо праз няшчасны выпадак трапіў на аперацыйны стол.

МЕРКАВАННЕ

# Адказнасць за жыццё

*Праваабаронца і сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў **Віктар САЗОНАЎ**— аб смяротным пакаранні.*

Расстрэл. Гучыць жудасна і нечакана. Хоць усе ведалі, што так можа здарыцца, а хутчэй за ўсё, так і будзе, усё адно гэтая навіна прагучала нечакана.

Які можа быць расстрэл?! У нас што тут, вайна пачалася, ворагі, іншаземныя салдаты, марадзёры, здраднікі? Якая неабходнасць спяшацца з расстрэлам чалавека? Можа, трэба імкліва адступаць нашым войскам у тыл, а варожага дыверсанта няма куды дзець, як толькі паставіць да сцяны, ці што? Ці якая яшчэ такая прычына ёсць?

На гэтае пытанне знайсці адказу не магу. Хоць трэба яго шукаць нават зараз, калі ўжо позна. Калі людзей ужо няма ў жывых. І не пра тое гаворка, вінаватыя яны ці не, ці цалкам даказана іх віна, ці бок абвінавачання чагосьці недагледзеў. Ці яшчэ што горш... Зусім не пра тое размова. А толькі пра тое, навошта гэта рабіць?

Зрэшты, гэта не першыя расстраляныя ў Беларусі людзі. Пасля таго як на рэферэндуме 1996 года беларускае грамадства прагаласавала за смяротную кару, за тое, каб дзяржава мела права забіваць людзей, яна гэтае права і рэалізоўвае. Рэалізоўвае ад імя народа, які надзяліў такімі паўнамоцтвамі дзяржаўную сістэму. І самае крыўднае, што яна мае права гэта рабіць ад імя народа, бо народ узяў на рэферэндуме бюлетэні і паставіў галачку ў графе “за”. За смяротнае пакаранне. (Як праходзіў той рэферэндум — іншая тэма. — **Аўт.**).

Людзі выбралі смерць. Зразумела, што смерць для некага. Не для сябе ж. А ўсяго толькі для бліжняга. Але ў жыцця своеасаблівае пачуццё гумару. Бо многія сваякі расстраляных, калі галасавалі за смерць, то не думалі, што гэта можа тычыцца непасрэдна іх і іх блізкіх. Не задумаліся, што бяда можа пастукаць ва ўсякія дзверы.

А большасць з тых, хто тады галасаваў на рэферэндуме, не захацелі зразумець, а мо ўсё разумелі, але не захацелі прызнацца, што кожны грамадзянін нясе адказнасць за стан злачынства ў грамадстве. Не захацелі ўзяць гэтую адказнасць на сябе. Спіхнулі на кагосьці. На дзяржаву. Няхай, маўляў, нехта там разбіраецца і прымае рашэнні. Хоць добра ведалі, што няма на свеце дзяржавы, якая можа гарантаваць, што ні разу не памыліцца яе судовая і следчая сістэмы. І добра ведалі факты, калі такія трагічныя памылкі рабіліся ў мінулым. А калі і не ведалі, то значыць, не хацелі ведаць. Уцякалі ад праўды. Ды як сказаў мудрэц: “Няведанне не ёсць апраўданне. Усе няведальнікі ў пекла пойдуць”. І нават тыя, хто ў замагільнае жыццё прынцыпова не вераць.

Выбар нашага народу тады выпаў на смерць. Ці не за гэты выбар увесь народ зараз нясе пакуты і адказнасць? Бо можна памыліцца ў выбары дэпутата, кіраўніка краіны, выбары вектару развіцця, выбару, з кім сябраваць і з кім інтэгравацца. Можна памыліцца нават у выбары палітычнай сістэмы. Гэта не так важна. Гэта ўсяго толькі памылка, якую можна выправіць пры вялікім жаданні большасці грамадства. Але расстралянага чалавека да жыцця ўжо не вернеш. І таму выбраць смерць — гэта не памылка. Гэта погляд на сусвет, прага помсты і нават стан душы. Гэта духоўны стан, калі слова “духоўны” ўвогуле можна прымяняць да такога стану. Гэта жудасны негатыў у чалавечых душах. Чарната і пустата.

І калі ёсць пасля 1996 года хоць адзін нявінна забіты дзяржаўнай машынай чалавек, то кожны грамадзянін гэтай краіны нясе адказнасць за гэтае загубленае жыццё. І той, хто агітаваў на рэферэндуме за кару смерцю, і той, хто галасаваў за яе. І той, хто не прыйшоў галасаваць, тым самым абыякава паставіўшыся да пытання жыцця і смерці. І нават той, хто прагаласаваў супраць. Бо не змог адстаяць сваю праўду. Пабаяўся. Ці яшчэ горш — паленаваўся.

І калі мы наракаем, што мы адзіная краіна ў Еўропе, якая не з Еўропай, ці мы адзіныя ў Еўропе, каму патрэбны візы ў Еўропу, ці мы адзіныя ў Еўропе, хто жыве не так, як жывуць у Еўропе, то трэба найперш усвядоміць, што мы адзіная ў Еўропе краіна, якая практыкуе смяротнае пакаранне. Мы адзіныя з усёй супольнасці еўрапейскіх народаў паставілі галачку ў графе “за смяротнае пакаранне”.

ИЗ ПИСЬМА

## ...Но об этом ни слова

Утверждение чиновников, что резкое повышение цен на продовольствие и другие товары связано, дескать, с тем, что в соседних странах они выше, не выдерживает критики. Ведь там и зарплаты выше. Но об этом у нас не говорят ни слова...

Подтягиваете цены до российских — тогда и заработки у нас должны быть, как у россиян.

**Вячеслав САНДЮК.**

*Минск.*

ШЧЫРА

## Ён перавярнуў усё ўва мне...

Пашчасціла мне ў далёкія ўжо 60-я студэнтам-завочнікам Белдзяржуніверсітэта “атрымаць” у выкладчыкі Ніла Сымонавіча Гілевіча. Тады на філфаку на беларускую мову і літаратуру працавала цудоўная кагорта аднадумцаў-падзвіжнікаў. Разам з Н.Гілевічам — яго жонка Ніна Іванаўна, паэт Алег Лойка і іншыя, тады яшчэ маладыя, але таленавітыя і апантаныя ў сваёй справе спецыялісты.

Сустрэча з імі перавярнула ўва мне ўсё: адносіны да жыцця і роднай мовы, яе ролі ў лёсе народа і Бацькаўшчыны. Ужо тады зразумеў, што Ніл Сымонавіч усёй істотай дыхае матчыным словам, дасканала валодае ім, перадае сваю любоў людзям праз незвычайна прыгожыя, натхнёныя, мудрыя вершы. Мы з сябрамі лавілі кожнае слова настаўніка, які не чытаў завучаную лекцыю, а гутарыў з намі даверліва і душэўна, перадаючы ўласнае захапленне багаццем і музычнасцю нашай мовы.

...Праз два дзясяткі год лёс зноў падарыў мне сустрэчу з дарагім чалавекам. Тады славуты творца стаў на чале Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Помню, запытаўся ў мяне: а якое становішча з мовай на радзіме выдатнай паэткі Яўгеніі Янішчыц? І параіў утварыць суполку ТБМ на Піншчыне, што я і зрабіў.

Змаганнем за мову, за Беларусь вызначаецца галоўная лінія ўсяго жыцця і творчасці народнага паэта. Аб чым ён думае, красамоўна гаворыць хаця б такі верш, прысвечаны роднаму слову:

*Каб перш, чым свет*
*імглою паплыве,*
*Я мог сказаць:*
*“Ну вось, і мне не страшна:*
*Як ні душылі,*
*а яно — жыве!*
*Жыве, жыве*
*святое слова наша!*

Бяру на сябе смеласць ад імя былых вучняў Ніла Сымонавіча горача пажадаць яму доўгай жыццёвай дарогі на радасць усім, хто любіць Беларусь.

**Уладзімір ГУК,**
**жыхар вёскі Бобрык**
**Пінскага раёна.**

НЕ ЗГОДНЫ!

# Што, векавечная мара спраўдзілася і Беларусь ужо заняла «свой пачэсны пасад між народамі»?

Сто гадоў таму Янка Купала, вястун і прарок, якому ўсё жыццё “сніліся сны аб Беларусі”, напісаў вялікі верш “Маладая Беларусь”. Ужо тады, як і раней, душу паэта абнімала *“без граніц, без канца маці-радасць, што лепшы дзень родзіцца”*. Верш канчаўся незгасальнай надзеяй і заклікам:

*Падымайся з нізін, сакаліна сям’я,*
*Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;*
*Занімай, Беларусь маладая мая,*
*Свой пачэсны пасад між народамі!..*

Радкі гэтыя былі актуальныя заўжды, актуальныя яны і сёння. Нездарма ў 1994 годзе журы тагачаснага конкурсу на Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь вырашыла прыняць за тэкстуальную аснову гімна тры страфы (1-ю, 5-ю, 6-ю) верша “Маладая Беларусь”, а ў якасці прыпеву прапанавала апошнюю, 12-ю, страфу. Ды хутка рэзка змянілася, кажучы словамі Мікіты Зноска, “палітычная сітуацыя”, і сёння мы маем гімн, мала чым адрозны ад савецкага, які пачынаўся словамі “Мы, беларусы, з братняю Руссю...”.

Купалаўскі сімвал *пасад* як вобраз маладой Беларусі, роўнай сярод роўных, паўстае і ў ягоным вершы “Час!” (1918): *“Хай скажа сам народ... як заводзіць лад: ці жыць далей у няволі, ці разжыцца новай доляй, новы ўзнесць пасад”.* Да гэтага ж вобраза паэт вернецца зноў у паэме “Безназоўнае”, напісанай у 1924 г., калі ў БССР пачалася беларусізацыя:

*Беларусь на куце*
*У хаце сваёй села, —*
*Чарка мёду ў руцэ,*
*Пазірае смела.*

Калі ж праз некалькі гадоў з беларусізацыяй было пакончана раз і назаўсёды ды пачалася лютая барацьба з гэтак званымі “нацдэмамі” пры адначасовым ажыццяўленні пагалоўнай русіфікацыі, Янка Купала, унутрана застаючыся нескароным, мусіў выконваць ролю блазна, “юбілейнага” паэта. Ён яшчэ і яшчэ раз пераконваўся, што пры бальшавіках Беларусь не зойме *“свой пачэсны пасад між народамі”*. Сталінскі стаўленік у Мінску П.К.Панамарэнка 21 лістапада 1938 г. у сакрэтным лісце да Сталіна даносіў яму, што Янка Купала нядаўна сказаў: *“Усе нашы карты біты, лепшыя людзі вынішчаны, трэба самому рабіць харакіры” (ён ужо спрабаваў аднойчы пакончыць з сабой). У другі раз ён пачаў скардзіцца (у сваім асяроддзі) на нястрымную тугу, на тое, што ніякай Беларусі ён не бачыць вакол сябе, што ён хутка памрэ з такім жа смуткам аб Беларусі, з якім пачынаў сваё жыццё ў маладосці... Янка Купала гаворыць, што тое, што ён пісаў пры Савецкай уладзе, не творчасць, а дрындушкі”.*

У іншай мясціне гэтага ж ліста даносіцца, што Купала пусціў ва ўжытак крылаты выраз *“Пакуль жыве мова, жыве народ”*.

З думкамі пра Беларусь паэт трагічна загінуў у Маскве напярэдадні свайго 60-годдзя.

*“Сваёй ахвярнай пагібеллю ён нязмерна ўзвысіўся ў часе і стаў недасяжны,* — пісаў Васіль Быкаў. — *Цяпер мы ведаем: ён не прыняў зло. Ён не мог адолець яго, але не мог і скарыцца яму. Можа, сапраўды лепей памерці — ці самахоць, ці ад спрактыкаванай рукі спецыялістаў. Каб не множыць бальшавіцкае зло, не спяваць акафісты злачыннаму рэжыму, які тады схапіўся ў смяротнай бойцы з другім не меней злачынным рэжымам. Падобна, Купала зрабіў свой выбар — самы жахлівы, але з часоў Ісуса Хрыста і самы чалавечны выбар”.*

Агульнавядома, што нацыя без сваёй мовы — гэта не нацыя. І не народ. А як жа ў нас цяпер — у суверэннай Рэспубліцы Беларусь?

Міжнародная арганізацыя ЮНЕСКА ў 2009 годзе аднесла мову беларусаў да моў, што апынуліся пад пагрозай поўнага знікнення. Сітуацыя з беларускай мовай у краіне катастрафічная. Колькасць беларусаў, якія карыстаюцца роднай мовай, складала ў 2009 г., паводле перапісу, 23% (ад агульнай колькасці насельніцтва). А колькасць школьнікаў, што навучаюцца па-беларуску, скарацілася за апошнія 15 гадоў з 40% да 19%. Тут няма патрэбы прыводзіць вядомыя, неаспрэчныя факты адсутнасці беларускіх школ у нашых гарадах, сярэдніх і вышэйшых устаноў адукацыі з беларускай мовай навучання, амаль спрэс рускамоўнае радыё, тэлебачанне і газеты, у якіх толькі назва надрукавана па-беларуску (скажам, “Рэспубліка”, “Гродзенская праўда”) і г.д. Усяго гэтага не можа бачыць толькі сляпы.

Некалькі гадоў таму народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч выгукнуў з болем: *“О, як далёка нам яшчэ да Беларусі!”* Цяпер можна, на жаль, удакладніць, што гэтае “далёка” яшчэ больш аддалілася ад нас...

А ёсць жа, як ні прыкра, такія беларусы, якія не заўважаюць падсякання каранёў нацыі, а, наадварот, сцвярджаюць, быццам усё ў нас добра, як мае быць і нават лепш... Так, у часопісе “Полымя” (2012, №1. С. 4—5) галоўны рэдактар гэтага выдання паэт Мікола Мятліцкі змясціў свой верш “Спадчына”, напісаны такім самым вершаваным памерам (чатырохстопным анапестам), як і Купалава “Маладая Беларусь”. Калі чытаеш верш творчасці М.Мятліцкага, дык здаецца, што аўтар з прэтэнзіяй на ўласную парнаскую велічнасць і нейкае панібрацтва з самім Купалам, перафразуючы радкі несмяротнага Песняра пра матчыну мову, выхваляючыся сцвярджае, што беражэ яе, “прымнажаючы спадчыну” — нібыта ўсё, пра што марыў Купала, — ужо здзейснена стараннямі такіх “прымнажальнікаў спадчыны”, як Мятліцкі! Вось гэты верш амаль цалкам (няхай чытач сам ацэніць яго):

*Нам Купала сказаў, думна гледзячы ў свет:*
*— Беражыце свой край, мову матчыну!*
*І прымаю душой песняра запавет,*
*Берагу, прымнажаючы спадчыну.*
.........................................................
*І не здадзена сэрца адчаю на злом,*
*І крыляе зноў думкамі вольнымі.*
*Смольна дыхае зруб... І глядзіцца наш дом*
*На прасторы свяцістымі вокнамі.*

*І Купалу кажу з чутай годнасцю я*
*Пад нябёсаў вячыстымі зводамі:*
*— Заняла Беларусь маладая мая*
*Свой пачэсны пасад між народамі!*

Чытаеш такое і думаеш: вось хапіў!

У той час, як родны край, мову матчыну нявечаць і калечаць, не даюць дыхаць у сваёй краіне, нехта абвяшчае Купалаву мару — мару беларусаў — здзейсненай?!

Вадзім Дзеружынскі пісаў — з іншай нагоды — у кнізе “Забытая Беларусь”: як бы здзівіўся Янка Купала, каб (на машыне часу) трапіў з 1912 года ў наш 2012-ы. *“Яго, канешне, парадаваў бы факт існавання незалежнай беларускай дзяржавы. Але калі б ён пачуў, што тут усе размаўляюць па-руску, дык са злосці плюнуў бы і сказаў, што “такая” Беларусь яму не патрэбная”.*

**Іван ЛЕПЕШАЎ,**
**прафесар,**
**доктар філалагічных навук.**

*Гродна.*

ПРЫНЦЫПОВА!

## Калі зьнікнуць крывавыя бальшавікі з цэнтра Мінска?

Я жыву на ўскраіне Мінска. Нячаста выбіраюся ў цэнтр, але вось на Вялікдзень выдалася магчымасць, і я вырашыў пагуляць па галоўным праспекце, затым збочыў на прылеглыя вуліцы.

Што кінулася ў вочы? Божухна, літаральна на кожным кроку ўсё нагадвае пра бальшавіцкую гісторыю! Не нашу, беларускую, а бальшавіцка-камуністычную. Іду па вуліцы Свярдлова, зварочваю налева — вуліца Кірава, тут жа — Валадарскага і Урыцкага. Паралельна праспекту вуліца Маркса, якая перасякаецца з вуліцамі Леніна, Энгельса. А за стадыёнам “Дынама” — Ульянаўская... У скверы насупраць КДБ — Дзяржынскі.

Адным словам, студэнтам Белдзяржуніверсітэта і педуніверсітэта, якія месцяцца ў цэнтры сталіцы, бальшавіцкую гісторыю можна вывучаць не па падручніках, а падчас шпацыравання па горадзе. І нашы сённяшнія правадыры хочуць нечага добрага дабіцца? Калі ў галовах маладых людзей будуць сядзець такія крывавыя асобы, як Ленін, Свярдлоў, Урыцкі, Дзяржынскі і іншыя, то не хутка яны зразумеюць, што такое правы чалавека, дэмакратыя, свабода слова. А значыць — і рынкавыя рэформы, і наогул цывілізаванае жыццё.

Чаму ўлады не мяняюць назвы вуліц, якія носяць імёны розных Свярдловых—Урыцкіх—Леніных, на назвы ў гонар нацыянальна-гістарычных асоб? Нашых, беларускіх. І далёкіх продкаў, і сучаснікаў, якія зрабілі шмат для роднай Беларусі.

Адказ, я лічу, хаваецца ў тым, што нашы правадыры не адышлі далёка ад тых бальшавікоў, якія пусцілі мора крыві, але нічога путнага так і не зрабілі. Вось чаму Беларусі патрэбны перамены, і ў першую чаргу — ва ўладзе.

**Яўген ЛАЎРЫНОВІЧ,**
**былы інжынер-машынабудаўнік.**



ВАС ИНТЕРЕСУЕТ...

## Чем полезен чернослив

*Расскажите, пожалуйста, о пользе чернослива.*

***Ольга ГРИГОРОВИЧ,***
***пенсионерка.***

Чернослив является отличной помощью при анемии и авитаминозе. Калия в черносливе содержится в 1,5 больше, нежели в бананах, что делает чернослив отличным средством для улучшения водно-солевого баланса и нормализации работы почек.

Чернослив является эффективным помощником в борьбе с болезнями желудка и кишечника. Он превосходно справляется с запорами и обладает слабительным эффектом. Поэтому не стоит торопиться бежать в аптеку за химикатами, а просто съешьте пять-шесть ягод чернослива.

Также известно мочегонное и желчегонное свойство чернослива. Еще одним несомненным полезным свойством чернослива является его способность предотвращать сердечно-сосудистые заболевания. Обладает чернослив и антибактериальными свойствами: он губительно воздействует на микробы, вызывающие болезни ротовой полости.

БЫЛО...

# Спасла любовь

Я должен был умереть 3 августа 1942 года. Но спасла юношеская любовь, вспыхнувшая в сердце в мои пятнадцать.

Вот как это было.

...В то время в наших местах на Шкловщине действовала партизанская бригада “Чекист”. В одном из отрядов воевал 34-летний брат моей матери Иван Дригин из деревни Сметаничи Толкачевского сельсовета, что в шести-семи километрах от нашей Васильевки.

По ночам время от времени Дригин, не заходя в нашу хату, о чем-то шушукался с отцом во дворе. Иногда его условный стук в окно будил меня. Я не проявлял интереса к их разговорам: мало ли о чем они могли по-родственному судачить? Однажды, еще не уснув, я все же на цыпочках подкрался к дверям сеней, за которыми они шептались, и мое ухо уловило, что завтра, в воскресенье, Дригин вместе с другими партизанами будут на митинге в деревне Говяды.

За несколько дней до этого партизаны на стене дома деревенского старосты Михаила Романова вывесили листовку, призывавшую молодежь вливаться в ряды народных мстителей, и мне захотелось стать партизаном. Не знаю, что превалировало в принятии такого решения: ненависть к фашистам, романтика партизанской борьбы или желание отличиться перед любимой девушкой. Скорее всего, это и было главным побудительным мотивом.

С точки зрения сегодняшнего дня, это было неоправданно. Ведь, уйдя в партизаны, я подвергал смертельной опасности всю семью — старшего брата и младшую сестру, отца с матерью. Фашисты не пощадили бы никого. И моей совести не было бы успокоения и по сей день.

А тогда...

2 августа где-то в середине дня, ничего не сказав родителям, я пошел в Говяды. Увидел: по улице деревни шагали Иван Дригин, командир партизанского отряда П.А.Красяков и молоденькая, одетая по-городскому девушка. Красяков был примерно такого же возраста, как и Дригин, — симпатичный, в синей летчицкой пилотке. У дяди на плече висел неуклюжий автомат с деревянным прикладом и круглым диском.

До этого Ивана Дригина я никогда не видел, и он меня — тоже. Но мы сразу же узнали друг друга: я был очень похож на отца. А его я узнал по тому, как он волочил по земле правую ногу — последствие поножовщины, которая в предвоенное время нередко случалась среди сельских ребят. О его ранении и о том, что он отбывал срок за хулиганство, я знал из рассказов своих родителей.

— Вот видишь, комиссар, откликается молодежь на наш призыв, — узнав о цели моего визита, сказал Дригин Красякову, представляя меня и намекая на расклеенные в деревнях партизанские листовки.

Дядя повесил свой тяжелый ППШ на мое плечо, и уже вчетвером мы шагали по деревенской улице. Ловя любопытные взгляды сельчан, я с гордостью ощущал себя партизаном.

...Тем временем мы вышли за деревню, где неподалеку от болота, на недавно скошенном лугу уже собрались деревенские люди и пришедшие на встречу с ними партизаны.

Начался митинг. Развенчивая лживую фашистскую пропаганду, партизанские ораторы рассказывали правду о событиях на фронте и о жизни советского тыла, который тоже работает на победу.

Большое впечатление произвело на меня выступление тогда начинающего, а в будущем известного белорусского писателя Владимира Карпова (не путать с его русским тезкой).

— Я только что вернулся из Москвы. В столице и в других городах, стремятся дать фронту все необходимое, люди на заводах и фабриках трудятся день и ночь... За Уралом, в Сибири стоят тысячи новеньких самолетов, готовых подняться в небо и сокрушать врага... У нас есть все для победы над фашистами!

В моей голове не укладывалось, как это ему удалось беспрепятственно перейти линию фронта, которая мне казалась непреодолимой. От слов Карпова у меня было такое ощущение, будто бы и я вместе с ним побывал на Большой земле.

В заключение писатель прочитал стихи о борьбе партизан с гитлеровцами, изображенными в образе лягушек. Мне запомнились две строчки:

*На болото тянут пушки,*
*Чтоб не квакали лягушки...*

До этого я видел Карпова только раз — молодого, стройного, в сапогах с длинными, закатанными сверху голенищами. Однажды летним утром он объявился в нашей деревне вместе с другими партизанами.

В то время как партизаны митинговали, со стороны близлежащего леса слышались то ли пулеметные, то ли автоматные очереди, что, конечно же, страшило меня, необстрелянного. А партизаны спокойно посматривали туда, откуда доносилась стрельба, и по “почерку” определяли, из какого вида оружия и кто там из него стрелял.

Те из партизан, кто был из Сметаничей, решили переночевать там в своих семьях. Вместе с Дригиным туда должен был отправиться и я. Но в последний момент меня что-то одернуло. Вспомнил свою любимую Рэму, которой за целый год не осмелился признаться в любви, и очень захотелось еще раз увидеть ее: по воскресеньям в бывшей колхозной конторе, служившей и клубом, вечерами устраивались танцы, и она могла быть там.

Условившись с Дригиным встретиться назавтра в Сметаничах, я пошел домой. Заглянул в свою хату, наспех перекусил и поспешил на танцы, которые были в самом разгаре. Заглянувшие сюда партизаны в перерывах рассказывали о своих боевых делах — подрыве железнодорожных эшелонов, разгроме полицейских “кустов” — и призывали молодежь вступать в их ряды.

По домам мы разошлись далеко заполночь. Я остался ночевать в хлеве жившего по соседству моего школьного друга Олега Гульцова. Зарывшись в сложенное под стрехой душистое сено, мы крепко уснули.

Рано утром нас разбудил панический людской шум: со стороны Сметаничей виднелись черные клубы дыма, и ни у кого не возникало сомнений, что полыхает именно эта деревня-партизанка (многие ее жители были в партизанском отряде). Окружив еще спящую деревню, фашисты согнали в сараи и спалили живьем всех людей. В том зловещем огне сгорел бы и я, если бы ночевал там. И никто и не узнал бы, куда я делся...

Застигнутые врасплох партизаны не смогли противостоять превосходящим им во много раз силам фашистских карателей. Вместе с товарищами по оружию в неравном бою погиб и Иван Дригин.

Как позже стало известно, произошло следующее. Когда, разместившись в Сметаничах на ночлег, партизаны в одной из хат распивали самогон, по улице протарахтел невесть откуда взявшийся немецкий мотоцикл. Один захмелевший партизан через окно выпустил вдогон ему автоматную очередь... Назавтра немцы отомстили жителям всей деревни. Никого не пощадили.

...Ну а что с моей любимой, благодаря которой я остался жив? В течение пяти послевоенных лет, когда я служил в Советской Армии, мы переписывались, во время моих ежегодных отпусков несколько раз встречались в Москве, где, кстати, она жила до войны. На оккупированной же территории девушка оказалась случайно, не успев до прихода немцев уехать из нашей деревни. Сюда вместе с сестрой Ниной они приехали к родственникам на летние каникулы. Мы влюбились друг в друга, собирались пожениться. Но, как это иногда бывает, что-то не сошлось. Расстались... Может, потому, что я слишком любил ее. Но это тема для отдельного разговора...

**Михаил ЖУКОВ,**
**86-летний ветеран труда.**

*г.Барановичи.*

ПЫТАННЕ-АДКАЗ

## Байкот — гэта законна?

*Некаторыя палітыкі заклікаюць да байкота маючых адбыцца парламенцкіх выбараў, а ці законна гэта?*

***Ірына ЛЯХ, Мінск.***

Сакратар Цэнтрвыбаркама **Мікалай Лазавік** паведаміў, што беларускае заканадаўства не забараняе байкот выбараў.

*“У рамках закона ніякіх перашкод для байкатавання няма. Хочаш — ідзі на выбары, хочаш — не. Выбары ў нас свабодныя, і кожны грамадзянін сам вызначае, ісці яму на выбары ці не ісці, за каго з кандыдатаў галасаваць”,* — сказаў ён.

Мікалай Лазавік адзначыў, што ў Беларусі не забаронены і заклікі да байкоту выбараў, хоць раней у заканадаўстве прысутнічала норма, якая забараняла такія дзеянні.

НУ И НУ!

## Наповал

На белорусском телевидении есть передача “Права человека. Взгляд в мир” с ведущим г-ном Новиковым. Недавно в интернете попался мне этот “шедевр” за ноябрь прошлого года. Пересматривая его, я обнаружил интересные факты.

Рассказывая про плохое состояние финансовой системы Америки, растущий долг, плату за обучение американских студентов и прочее, нам показывают различные таблицы и графики, чтобы наглядно убедить в правоте своих высказываний. При просмотре на телеэкранах обыватель ничего необычного и не замечает, но... Если мы посмотрим данный сюжет на любом другом устройстве с возможностью покадрового просмотра (компьютер, например), то увидим, что же на самом деле нам показывают! Я бы назвал данный сюжет “НОВИКОВ и Брюс Спрингстин”! Думаю, многие знают данного американского рок-музыканта. Так вот, показывает нам г-н Новиков новые релизы какого-то интернет-магазина компакт-дисков, фонотеку Брюса Спрингстина для скачивания из интернета, объемы скаченной информации за вчера и сегодня. А где же вся финансовая аналитика?! Не перестаю удивляться нашему телевидению. Неужели наш народ считают за полное быдло, что даже не удосужились подобрать соответствующие картинки?! Взяли первое, что попалось под руку. Это кошмар!

**С уважением —**

**Алексей ВАСТОВИЧ.**

*г.Борисов.*

